ISSN 2351-6658
ISSN (ONLINE) 2351-6666

# КАНАНІЗАЦЫЯ ЕЎФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

ГАЛІНА МЫСЛІВЕЦ

***Анатацыя:*** Артыкул прысвечаны праблеме кананізацыі прападобнай Еўфрасінні Полацкай. Галоўная ўвага скіравана на вызначэнні часу афіцыйнага ўшанавання полацкай ігуменні, якое прадвызначыла яе агульнацаркоўны культ. Таксама былі пазначаны вызначальныя рысы культу прападобнай і спецыфіка яе шанавання.

***Ключавыя словы:*** культ, кананізацыя, святы падзвіжнік, прападобны, царкоўнае шанаванне.

## CANONISATION OF ST. EUPHROSYNE OF POLACK

***Abstract:*** The article is devoted to the canonisation of St. Euphrosyne of Polack. The main focus is on defining the time of the official honouring of the Mother Superior of Polack which predetermined her interconfessional cult. The defining features of the reverend’s cult and the specificity of her veneration have also been indicated.

***Keywords:*** Cult, Canonisation, Reverend, Church Veneration.

Шанаванне святых было замацавана ў хрысціянстве з самых старажытных часоў. Першапачатковы рэлігійны культ распаўсюджваўся на апосталаў і пакутнікаў, а таксама на старазапаветных святых – праайцоў і пракрокаў. Таксама ў старажытны перыяд складаецца і шанаванне прадстаяцеляў мясцовых цэркваў – спачатку ў межах асобнай царквы, дзе праходзіла іх дзейнасць, а пасля ў якасці агульнацаркоўнага культу.

Гістарычнае развіццё прыводзіць да з’яўлення іншых катэгорый святых, шанаванне якіх уваходзіць у агульны культ. Так, узнікненне і развіццё манаскага жыцця, узвядзенне манастыроў абумовіла з’яўленне шанавання прападобных – святых манаскага чыну, чый подзвіг заключаўся ў малітве і самаадданым служэнні Богу. Святыя, заснавальнікі манастыроў, скітаў, лаўраў, якія клапаціліся аб уладкаванні манаскага жыцця, атрымалі ў народзе асаблівае шанаванне.

Культ святога з’яўляецца шматграннай гісторыка-культурнай і рэлігійнай формай шанавання, якая складаецца гістарычна на базе рэлігійных уяўленняў і звычаяў, з’явай яго пасмяротнай прысутнасці ў грамадстве. Тэрмін “культ” сінанімічны паняццю “шанаванне” і выкарыстоўваецца як раўназначны яму.

Духоўна-маральныя каштоўнасці кожнага народа звязаны з нацыянальнымі, “уласнымі” святымі. Сярод шанаваных святых Еўфрасіння Полацкая (1104–1173) займае пачэснае месца. Імя прападобнай ігуменні стаіць у адным шэрагу з імёнамі такіх усходнеславянскіх падзвіжнікаў, як Антоній і Феадосій Пячорскія, Кірыл Тураўскі, Сергій Раданежскі, Кірыл Белазерскі і іншыя. Форма шанавання святой складвалася гістарычна і ўвабрала ў сябе рэлігійныя ўяўленні і звычаі рознага паходжання. На сучасным этапе Еўфрасіння Полацкая стала апякункай беларускага народа і жаночага манаства, бо прападобная прычынілася не толькі да развіцця хрысціянскай веры, праславілася аскетычным жыццём, але і садзейнічала развіццю духоўнай культуры і асветы. Асаблівасць манаскага подзвігу полацкай князёўны заключалася ў тым, што яна была адной з нямногіх святых жанчын, якія здолелі ўзяць на сябе духоўна-матэрыяльныя цяжкасці заснавання двух манастыроў, клопаты аб іх належным уладкаванні, культурна-асветніцкую дзейнасць і здзяйсненне паломніцтва да Святой зямлі.

Кананізаваны святы ёсць той святы, якому ўстаноўлена і здзяйсняецца штогадовае святкаванне (служба), спяваюцца малебны і да якога звяртаюцца з малітвамі. Як вядома, шанаванне значнай колькасці падзвіжнікаў набожнасці пачыналася раней за іх кананізацыю. Так, адразу пасля пахавання святога або праз пэўны час пасля смерці пачыналася шанаванне яго памяці. Першапачаткова ініцыятыва шанавання падзвіжніка ў абсалютнай большасці выпадкаў зыходзіла знізу,

была народным волевыяўленнем, пасля чаго Царква праводзіла адпаведныя даследаванні і зацвярджала ўрачыстае храмавае служэнне падзвіжніку з прызначэннем дня яго ўшанавання (часцей за ўсё гэты дзень прыпадаў на дзень спачыну, здабыцця або перанясення мошчаў святой асобы).

З моманту ўзнікнення культ Еўфрасінні Полацкай стала развіваўся ў рамках канона і меў шматлікія формы праяўлення: стварэнне Жыція і царкоўнай службы; зацвярджэнне і ўрачыстае святкаванне дня памяці; напісанне ікон (абразы, фрэскі, вышываныя надтрунныя пакровы і іншае); афіцыйнае далучэнне да ліку святых; узвядзенне манастыроў, храмаў, капліц і асвячэнне прыдзелаў у імя прападобнай; здзяйсненне паломніцтваў і хрэсных хадоў да месца яе спачыну. Як кожная гістарычная з'ява, культ Еўфрасінні Полацкай не заставаўся статычным, а эвалюцыянаваў у часе. Гэтая эвалюцыя закранала як асобныя рысы культу, так і ўсе іх разам.

У гісторыі кананізацыі амаль кожнага святога маецца яго мясцовае шанаванне. Больш ці менш доўгі час святыя спачатку праслаўляліся толькі ў той мясцовасці (манастыры, горадзе), дзе яны жылі і дзе былі пахаваны. Пры гэтым мясцовае шанаванне некаторых святых (Варлаам Хутынскі, Мікіта Пераяслаўскі, Міхаіл Чарнігаўскі) працягвалася некалькі стагоддзяў. Вытокі шанавання прападобнай Еўфрасінні Полацкай трэба шукаць у манастырскай традыцыі, паколькі святая ўвайшла ў гісторыю як заснавальніца жаночага Спаскага і Багародзіцкага мужчынскага манастыроў у Полацку. На працягу свайго існавання манастыр з'яўляўся асноўнай візуальнай і сэнсавай дамінантай у фармаванні і развіцці культу сваёй заснавальніцы і першай ігуменні.

На сённяшні дзень пытанне аб дакладным часе кананізацыі Еўфрасінні застаецца актуальным і дакладна не вырашаным. Каб вызначыць сапраўдны час кананізацыі святой, трэба адкінуць некарэктныя меркаванні па гэтай праблеме. Так, Еўфрасіння Полацкая не была афіцыйна праслаўлена падчас Макар'еўскіх сабораў 1547, 1549 гадоў, дзе было кананізавана 39 рускіх святых (Опрышко, 2002: 106). Гэты факт быў абумоўлены шэрагам аб'ектыўных прычын. Як вядома, умова далучэння да ліку святых на Макар'еўскіх саборах заставалася нязменнай – праслаўленне павінна было адбыцца шляхам здзяйснення цудаў ад мошчаў падзвіжніка веры як непасрэднае сведчанне аб яго канчаткова складзеным ушанаванні. Месцазнаходжанне нятленных астанкаў трох віленскіх пакутнікаў і Елісея Лаўрышаўскага было дакладна вядома, як і цуды ацалення, атрыманыя каля іх мошчаў. Такім чынам, асабістая прыхільнасць мітрапаліта (былі праслаўлены тыя падзвіжнікі, якіх глыбока шанаваў сам Макарый: Пафнуцій Бароўскі, Аляксандр Неўскі і

маскоўскі мітрапаліт Іона) і геаграфічны фактар блізкасці таго ці іншага святога (2/3 з 13 праслаўленых падзвіжнікаў складалі святыя Ноўгарада: наўгародскі архіепіскап Іаан, прападобныя Зосіма і Савацій Салавецкія, Аляксандр Свірскі, Міхаіл Клопскі) былі другараднымі ў адносінах да галоўнай умовы – наяўнасці мошчаў. Такім чынам, уплыў іерарха на вынікі дзейнасці Сабораў быў абмежаваны нязменным правілам. Гэта наводзіць на думку, што падчас правядзення Сабораў 1547 і 1549 гадоў мошчы прападобнай Еўфрасінні яшчэ не былі пакладзены ў Кіеўскай лаўры і, імаверна, па-ранейшаму працягвалі заставацца ў іерусалімскім Феадосіевым манастыры. Як вядома, мужчынская абіцель была разбурана толькі ў XVI стагоддзі. Падчас заваёвы Іерусаліма войскамі Салах ад-Дзіна Феадосіеўская лаўра, якая знаходілася на значнай адлегласці ад горада, аблозе не падвяргалася (Басова, 2008: 509). Імаверна, што мошчы Еўфрасінні былі перанесены з Іерусаліма ў Кіева-Пячорскі манастыр паміж другім Макар’еўскім саборам (1549 год) і саборнай кананізацыяй кіева-пячорскіх святых у 1643 годзе.

Еўфрасіння Полацкая была кананізавана ў чыне прападобных як асоба, прылічаная да святых па выніках аскетычнага жыцця і здзяйснення малітоўнага і манаскага подзвігу. Прападобная належыць да катэгорыі асоб княскага роду, якія сталі інакамі і ігуменамі і якіх можна аднесці да чыноў святых дабраверных князёў (княжон) і прападобных. Еўфрасіння Полацкая была кананізавана ў 1643 годзе фармальным чынам, «за раз» (г.зн. разам з іншымі святымі Кіева-Пячорскай лаўры), падчас дзейнасці кіеўскага мітрапаліта Пятра Магілы (1632–1647) (Голубинский, 1903: 205). Да таго часу кананізацыя прападобнай насіла мясцовы характар і была, імаверна, здзейснена полацкім епіскапам Дыянісіем.

Такім чынам, Еўфрасіння Полацкая была праслаўлена як святая Кіева-Пячорскай лаўры, аднак на тэрыторыі Украіны яна была амаль невядома. Феномен культу прападобнай Еўфрасінні таксама заключаецца ў тым, што яе шанаванне да 1910 года развівалася асобна ад месца захоўвання святых мошчаў. Адметнай рысай культу Еўфрасінні Полацкай з’яўляецца факт шанавання мошчаў Еўфрасінні не там, дзе яны знаходзіліся (Кіева-Пячорская лаўра), а на той тырыторыі, дзе праходзіла рэлігійна-асветніцкая дзейнасць святой (манастыры Спаса, Прасвятой Багародзіцы і Полацкая епархія, у прыватнасці).

***Бібліяграфія***

1. Басова, Мария (2008). Евфросиния Полоцкая, прп. / М.В. Басова, Б.М. Клосс, А.А. Турилов, Г.Н. Шейкин, *Православ. энциклопедия.* Москва, Т. XVII: 507–517.

2. Голубинский, Евгений (1903). *История канонизации святых в Русской церкви.* Москва: Императ. общ-во ист. и древн. российских при Мос. ун-те.

3. Опрышко, Надежда (2002). *Православные святые: почитание и прославление.* Москва: Олма-пресс.